 



# Ніва

„NIWA" — TYGODNIK BIAŁORUSKI W POLSCE

ГОД II № 2 (46) БЕЛАСТОК, 13 СТУДЗЕНЯ 1957 г. Цана 60 гр.


## ВЫБАРЫ

Ужо толькі тыдзень дзеліць нас ад выбараў у Сейм Польскай Народнай Рэспублікі.

Паразумеючыя камітэты Фронта Адзінства Народа ўжо падалі да ведама грамадскасці спісы кандыдатаў на паслоў.

Штодзённа ў друку зьяўляюцца іх аўтабіяграфіі. На шматлікіх перадвыбарчых сходах будучыя паслы сустракаюцца са сваімі выбаршчыкамі і прадстаўляюць ім сваю праграму будучай дзейнасці ў Сейме.

Праграма дзейнасці па асобных паслоў, а ўслед за гэтым і дзейнасць будучага Сейма нямала цікавіць беларускае насельніцтва ў Польшчы.

Беларусы добра памятаюць дзейнасць былога Сейма, дзе на працягу 4-х год ніколі і нічога не гаварылася аб хвалюючых нацыянальныя меншасці ў Польшчы справах.

Добра памятаюць дзейнасць сваіх прадстаўнікоў у былым Сейме, сярод якіх былі таксама паслы - беларусы, якія ніколі не бачылі праблемы нацыянальных меншасцей, ніколі аб ёй не гаварылі на пасяджэннях Сейма і ў рэчаіснасці не чуліся і не былі прадстаўнікамі сваіх выбаршчыкаў — беларусаў.

Ці гэта было справядліва? Вядома, што не!

Ва ўсіх выбарчых акругах Беласточчыны ўжо прадстаўлена кандыдатаў на паслоў.

Сярод іх нямала ёсць беларусаў. Многія кандыдаты сустракаюцца са сваімі выбаршчыкамі на перадвыбарчых сходах, прадстаўляюць ім праграмы сваёй дзейнасці ў будучым Сейме.

Вельмі добра, што большасць кандыдатаў у сваіх праграмах гавораць аб неабходнасці шпарчэйшага эканамічнага развіцця Беласточчыны, а асабліва развіцця занядбалай сельскай гаспадаркі на Беласточчыне, аб неабходнасці гаспадарчай актывізацыі заняпадаючых малых гарадоў і іншых, вельмі патрэбных справах. Гэта важная праблема і таму вельмі добра, што будучыя паслы бачаць яе і абяцаюць змагацца за тое, каб Беласточчына перастала ў канцы быць тою пакрыўджанай Польшчай «Б».

Аднак справы эканамічныя, хоць і вельмі важныя справы, не павінны адсоўваць на далейшы план няменш важных спраў развіцця культуры насельніцтва Беласточчыны. Гэта справа вельмі складаная улічваючы спецыфіку насельніцтва Беласточчыны, дзе акрамя палякаў, пражываюць нацыянальныя меншасці, ў тым ліку найбольшая меншасць у Польшчы наогул, беларусы.

Справы развіцця культуры нацыянальных меншасцяў у Польшчы вымагаюць сапраўды мудрага вырашэння, сапраўды мудрай палітыкі, якой дагэтуль на жаль, ня было.

Шмат ёсць прыкладаў, калі патрыятычныя пачуцці беларусаў у Польшчы лічаць за нешта дрэннае і абавязкова стараюцца знайсці ў іх хоць частку нацыяналізма.

А ці ж гэта калі беларус будзе мець вялікае пачуццё патрыятызму перашкодзіць яму поўнасцю рэалізаваць пастановы Партыі і Урада, ці ж гэта перашкодзіць яму гоўнасцю ўключыцца ў пабудову соцыялізма ў сваёй краіне — народнай Польшчы?

Хіба не! Можна смела сказаць, што пачуццё патрыятызму, толькі дапаможа яму ў гэтым.

Вось гэтыя праблемы павінны мець на ўвазе будучыя паслы.

Справу трэба паставіць ясна. Беларусы, так як і іншыя нацыянальныя меншасці хочуць мець у Сейме такіх прадстаўнікоў, якім будзе ляжаць на сэрцы справа не толькі гаспадарчага, але і справа ўсебаковага развіцця беларускай культуры.

Вось гэтага павінны дамагацца беларусы ад кандыдатаў на паслоў без розніцы на іх нацыянальную прыналежнасць. І не толькі дамагацца, але і падказваць тыя праблемы, якія хваляюць беларускае насельніцтва. Толькі тады выбраныя паслы змогуць выканаць свае абавязкі ў дзейнасці новага Сейма.

Мы верым, што кандыдаты зацверджаныя паразумеўчымі камітэтамі Фронта Адзінства Народа будуць такімі пасламі.



*Фото — Ул. Косакоўскі.*

МІКОЛА БАЗЫЛЮК

## ЗІМА

Заснула возера. Па тонях
Ня чутна больш бурлівых хваль.
Кусты аголены, на гонях
Іскрыцца снег, блішчыць як сталь.
Душа мая адпачывае
І вока цешыць белы снег.
А думка ластаўкай шыбае,
Хто ж затрымае яе бег?
Пад белай, снежнай, палатнінай
Заснуўшы бачу родны край.
Сплываюць дні працёртай калінай,
А ў сэрцы радасць — прыйдзе май.

* * *

Распісаў мароз узоры
На маім акне.
Парабіў на ім разоры..
Ноччу кросны тчэ.
Прачакае захад сонца, —
Кросны ўжо снуе.
І малюнкі на ваконца
Ціханька кладзе.
Тут ёсць пальмы, кіпарысы,
І наш родны клён.
Знаю я зімы капрысы,
Усё міне, як сон.
За акном мароз злуецца,
Па вуглах трашчыць.
А з акна вясна смяецца
І ў душу глядзіць.

 

 

ЗЫГМУНТ БУРЧАК-АБРАМОВІЧ

# КУШЛЯНСКІ ЖНІВЕНЬ

Багушэвічэўскія Кушляны — гэта невялічкі фальварак без ніякага нахілу да «панскасці».

«Старый Францішак», як яго называла за маёй маткай большасць блізкіх — польская частка сям'і, хадзіў па балкону і ахвотна гутарыў з кожным, хто ўваходзіў у кушлянскую браму, каля надта прыгожага крыжа.

Першы раз я прайшоў цераз гэтую браму, калі мне было чатыры, мо' пяць гадоў — і зразумела што ўсё гэта цяпер далёкае і заснаванае туманамі даўнасці — быццам сон.

Трэба сказаць, што песняра наагул лічылі за чалавека больш маўклівага, маўклівага не «па адвакацку» (ведаем, што Багушэвіч быў адвакатам пры Віленскім Акруговым судзе).

Бацькі мае праводзілі зіму ў Маскве, а летам заўсёды бывалі на Беларусі, якую мой бацька лічыў сваёй бацькаўшчынай — і ўсё тое, што я цяпер апісваю было гэта ў 1898—1899 г.

Мне было 5—6 год і я «дзіця вялікага горада» — Масквы першы раз убачыў сапраўдную вёску. Гэта былі Кушляны.

Задзіўляла мяне ўсё, а можа найбольш сам гаспадар. Я прыкмеціў, што ён гаворыць з маім бацькам не па-польску і не па-руску, а неяк, не зусім зразумелай мовай.

Я «з дому» ведаў польскую мову і падрыхтоўваўся да рускай гімназіі — вучыўся ўсялякіх «ятей» і «твёрдых знакаў».

Як я цяпер успамінаю — для людзей не ведаючых у чым справа дзіўна выглядала гутарка апранутага ў доктарскі ваенны мундзір чалавека з вядомым віленскім «прысяжным поверанным» (так называлі адвакатаў) — гутарка «па просту».

Можна толькі шкадаваць — што пяцігадовы хлопчык — не мог ведаць; беларускі пясняр чытаў свае творы — я быў толькі бязвольным сведкай часткі творчага працэсу.

Аднойчы мы ўсе пайшлі ў поле, адкуль вазілі сена і Багушэвіч падсадзіў мяне на высачэнны воз кажучы: «вось на гэтым паедзеш дадому!»

Я надта ўцешыўся, учапіўся за шнур — і мяне павязлі.

Усё было-бы ў парадку, калі-б Кушлянскі «грунт» быў гладкі. Праз усё жыццё я не бачыў такога ліку каменняў у адным месцы — як там.

І вось у пэўным момансе я лячу з гэтага возу і падаю на велізарны камень.

Трэба было бачыць, як злякаўся Багушэвіч, як схапіў мяне на рукі і сам панёс мяне дадому.

У памяці асталіся — воблік песняра, яго глыбокі голас і добрыя вочы...

Некалькі разоў пісаў да маіх бацькоў пытаючыхся ці не было якіх дрэнных рэзультатаў маёй паездкі з сенам.

Яшчэ раз убачыў Багушэвіча ў маіх дзедаў у Вільні, нажаль гэта было толькі кароткае спатканне — калі я варочаўся дадому — пясняр ужо развітаўся.

Частка сям'і Багушэвіча жыве цяпер у Польшчы.

Аб маім «Кушлянскім сене» я шмат пазней расказаў беларускаму песняру Цішцы Гартнаму — а ён падумаў ды адказаў: «ведаеце што гэткія рэчы трэба глыбока хаваць у памяці, бо наогул мы мала, што ведаем аб нашых дзеячах. Будзе, прыйдзе час, калі будзем збіраць нават самыя няважныя факты».

Я паслухаў Гартнага — і ўспомніў цяпер.

## Успаміны старога дзеяча „Грамады"

У 44 нумары святочнага дадатка «Газеты Беластоцкай» — «Свет і людзі» тав. Матэйчык у сваім артыкуле ўспамінае аб закрываўленай кашулі, якую на довад прадставілі паслы камуністычнай фракцыі віцэ-прэм'ераві Бартэлёві.

Аб гэтым факце пастараюся расказаць трохі шырэй.

Было гэта 5 снежня 1926 года пасля крывавай расправы з удзельнікамі З'езду ў Старым Беразове. Тав. Рыгор Волчык, калі ўдалося яму выйсці без шкоды з гэтага разгрому з задавальненнем падкруціў свае, ад вуха да вуха, вусы. Здавалася яму, што найгоршае меў ужо за сабой. Без ніякіх перашкод дабраўся да Гайнаўкі і спакойна, як штодзень, Ліповай вуліцай падыходзіў да свайго дома. Да самага вечара ўсё адбывалася нармальна. Толькі ноч замест спакою ўнесла ладому Волчыка знішчэнне, слёзы і раны. Фашысцка - балахоўская «баюўка» хутка і латва абышлася з дзвярыма і вокнамі.

Пасля нядоўгага часу сярод паперавальваных сталоў, сярод шкла і пабітай пасуды ляжала закрываўленае цела Рыгара Волчыка. Але здароўе селяніна ёсць моцнае, яно перамагло і смерць.

Па нейкім часе адведаць Волчыка прышлі паслы Пётр Метла і Павал Валошын. Развітваючыся яны папрасілі закрываўленую кашулю. Волчыка вельмі здзівіла такая просьба, але яе не адмовіў.

Прашло некалькі дзён і вось беларуская прэса падала да ведама, што па пасольскай інтэрпеляцыі ў Сейме, паслы левіцы кінулі закрываўленую кашулю Рыгара Волчыка на сторану правіцы.

Гэтая кашуля затачыўшы ў паветры поўкруг упала на лысіну эндэка, які з агідай адкінуў яе назад і пачаў хустачкай выціраць свой блішчачы ад поту лоб.

ФЕДАР ГЕРМАНЮК

З конкурсу збіральнікаў народнай творчасці

## ЛЕГЕНДА

У адной вёсцы жыў Іван і яго жонка Матрона. Жылі яны не багата і не бедна. Мелі адзінага сына Івана. Матрона была вельмі скупая і жадная. Калі сын Іван вырас, яго ўзялі ў салдаты.

Пасля службы ён вярнуўся дадому. У канцы вёскі, дзе жылі яго бацькі была карчма, дзе гаспадар яўрэй гандляваў гарэлкай.

Варочаючыся дадому зайшоў Іван у гэтую карчму. Там трошкі падпіў і ідучы дамоў захацеў пасмяяцца над бацькамі, не прызнацца, што ён іх сын.

Зайшоўшы вечарам дахаты папрасіў ён каб яны прынялі яго пераначаваць. Матрона не згаджалася, а ён гаворыць:

— Мне нічога вашага не трэба. Я маю многа грошай, а можа і ў вас ёсць сын на вайсковай службе, а калі яму так здарыцца ў дарозе пераначаваць і яго не прымуць. Яму тады будзе вельмі непрыемна.

Як толькі салдат успомніў пра грошы, Матрона адразу згадзілася яго прыняць і хутчэй падрыхтавала яму пасцелю і палажыла яго спаць.

Іван трохі выпіўшы і змучаны хутка заснуў а Матрона гаворыць да свайго мужыка:

— Давай яго заб'ем і забярэм грошы. То-ж яны нам прыдадуцца. Прыдзе наш сын — Ваня са службы і яму за гэтыя грошы што-небудзь купім.

Мужык гаворыць: — Не магу гэтага зрабіць, сумленне не пазваляе забіць невіннага чалавека.

А Матрона яму радзіць каб ён пайшоў у карчму і напіўся гарэлкі.

— Як будзеш п'яны, тады ўсё зробіш.

Іван — бацька так і зрабіў. Зайшоў у карчму, а яўрэй на парозе яго вітае і паздраўляе з прыбыццём сына са службы.

Пачуўшы гэта Іван хутчэй пабег дадому спаткаць сына, а Матрона ў гэты час, калі Іван хадзіў у карчму, узяла нож і зарэзала сына Івана. Прыбег бацька Іван дахаты, а Матрона яму гаворыць:

— Я ўжо зрабіла ўсё, давай будзем грошы шукаць.

Тады Іван ёй гаворыць, што гэта іх сын Ваня і ў гэтую хвіліну дастаў разрыў сэрца і паў трупам. Таксама яго жонка — Матрона памерла.

І так у адной хаце аказалася тры трупы.

КІРЫЛА САМОЙЛЮК
Падрэчаны

## Пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў

Многія творы беларускіх пісьменнікаў карыстаюцца шырокай папулярнасцю далёка за межамі нашай рэспублікі. Творы Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, А. Куляшова, М. Танка, П. Броўкі, Я. Брыля, М. Лынькова, Я. Маўра, З. Бядулі, К. Чорнага і многіх іншых неаднаразова выдаваліся ў перакладзе на рускую, украінскую, літоўскую, латышскую, грузінскую і іншыя мовы народаў СССР.

Некаторыя творы беларускіх майстроў слова перакладзены на замежныя мовы. Выбраныя творы Я. Купалы і Я. Коласа перакладзены і друкаваліся на польскай, румынскай і балгарскай мовах. Кніга Я. Брыля «У Забалоцці днее» перакладзена на польскую, венгерскую, чэшскую, іспанскую, англійскую і іншыя мовы.

БАЛЕСЛАУ МАНКЕВІЧ.

# Гутаркі аб мове

## Гутарка 9

### НАЗОУНІКІ, ЯКІЯ АБАЗНАЧАЮЦЬ АДУШАУЛЁНЫЯ І НЕАДУШАУЛЁНЫЯ ПРАДМЕТЫ

Апрача адрознівання назоўнікаў па родах, ліках і па тым, ці яны з'яўляюцца ўласнымі ці агульнымі, мы адрозніваем іх яшчэ і па тым, ці яны абазначаюць адушаўлёныя ці неадушаўлёныя прадметы.

Назвы людзей, звяроў, птушак і іншых жывых істот адносяцца да назоўнікаў, якія абазначаюць адушаўлёныя прадметы, напрыклад: *касец, жняя, лось, сава, камар.*

Гэтыя назоўнікі адказваюць на пытанне *хто?*

Усе астатнія назоўнікі абазначаюць неадушаўлёныя прадметы, напрыклад: *школа, ніва, пшаніца, сані.* Яны адказваюць на пытанне *што?*

З штодзённай практыкі мы ведаем, што назвы прадметаў маюць розныя формы. Возьмем назоўнік *хлеб. Ёсць хлеб, няма хлеба, гаварылі аб хлебе, сустракалі хлебам - соллю.* У прыведзеных прыкладах у слове хлеб паяўляюцца розныя канчаткі: *-а, -е, -ам.*

Такая змена назоўнікаў называецца *скланеннем,* а канчаткі назоўнікаў называюцца *склонавымі канчаткамі.*

У беларускай мове ёсць шэсць склонаў. Кожны склон адказвае на пэўнае пытанне. Вось назвы склонаў і пытанні, на якія яны адказваюць:

1. Назоўны адказвае на пытанне *хто?* або *што?*
2. Родны адказвае на пытанне *каго?* або *чаго?*
3. Давальны адказвае на пытанне *каму?* або *чаму?*
4. Вінавальны адказвае на пытанне *каго?* або *што?*
5. Творны адказвае на пытанне *кім?* або *чым?*
6. Месны адказвае на пытанне *аб кім?* або *аб чым?*

Назоўны склон называецца прамым, а ўсе астатнія — ускоснымі.

Акрамя шасці склонаў, у беларускай мове сустракаюцца формыклічнага склону: *чалавеча, браце, сынку, воўча.*

Назоўны склон ужываецца без прыназоўнікаў. Месны склон, наадварот, заўсёды ўжываецца з прыназоўнікамі: *Гаварылі аб ураджаі. Стаялі на мяжы.*

Астатнія склоны ўжываюцца з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў: *Стаялі каля лесу* (родны склон). *Не было блізка лесу* (родны склон).

### НЕСКЛАНЯЛЬНЫЯ НАЗОУНІКІ.

Некаторыя назоўнікі пры скланенні не змяняюцца.

Да такіх назоўнікаў адносяцца:

а) назоўнікі іншамоўнага паходжання, якія канчаюцца галосным гукам: *радыё, паліто, кіно; кенгуру, шымпанзе; Чыкаго, Тбілісі.*

б) прозвішчы жанчын з канчаткам на зычны або на *о: Барысевіч, Лабанок, Будзько.*

### АСНОВЫ НАЗОУНІКАУ.

Канчаткі назоўнікаў у розных склонах розныя. Яны залежаць не толькі ад склону, але і ад характару асновы.

Паводле асноў назоўнікі дзеляцца на пяць груп:

1) з асновай на цвёрды зычны: *зруб, сяло, звяно, вада, калода;*

2) з асновай на зацвярдзелы зычны: *брыгадзір, шалаш, мора, груша, печ, дождж;*

3) з асновай на мяккі зычны: *вучань, поле, змаганне, песня, соль;*

4) з асновай на *й: гай, май, жняя* (тут канцовая я — йа), *надвор'е* (тут е — йе);

5) з асновай на *г, к, х: нарог, нага, рука, гук, вуха, муха.*

### ПРАКТЫКАВАННЕ.

Перапішыце верш Янкі Купалы: «А хто там ідзе» (напісаны ў 1907 годзе), падкрэсліце назоўнікі, і, дапамагаючы сабе пытаннямі, вызначце іх склон:

*А хто там ідзе, а хто там ідзе*
*У агромністай такой грамадзе?*
*— Беларусы.*

*А што яны нясуць на худых плячах,*
*На руках у крыві, на нагах у лапцях?*
*— Сваю крыўду.*

*А куды-ж нясуць гэту крыўду ўсю,*
*А куды-ж нясуць на паказ сваю?*
*— На свет цэлы.*

*А хто гэта іх, не адзін мільён,*
*Крыўду несць навучыў, разбудзіў іх сон?*
*— Бяда, гора.*

*А чаго-ж, чаго захацелася ім,*
*Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?*
*— Людзьмі звацца.*



 

УЛ. ШЭШКО

# Першыя спробы выкарыстання беларускага фальклору ў польскай паэзіі

На пачатку XIX ст., калі польская літаратура ўваходзіць у новы перыяд свайго развіцця, калі ў новым літаратурным напрамку, званым рамантызмам, зазначаецца між іншым зварот да вуснай народнай творчасці, не прыпадкова звяртае на сябе ўвагу беларускі фальклор.

Гісторыя беларускага народа не спрыяла развіццю мастацкай літаратуры, мовы, культуры. Літаратура магла захавацца, існаваць і развівацца толькі ў форме вуснай народнай творчасці. Беларускі народ праз доўгі час не мог нармальна тварыць сваю літаратуру. Усё скамплікаванае жыццё і барацьба беларускага народа, адлюстроўвалася ў яго народнай творчасці. Вось чаму беларускі фальклор з'яўляецца самай цэннай і багатай нацыянальнай скарбніцай, з якой вырасла вялікая беларуская рэалістычная літаратура, з якой пачалі карыстаць ужо ў пачатку XIX ст. польскія паэты — філяматы, такія як: — Тамаш Зан, Ян Чэчот, Анупры Петрашкевіч і іншыя.

Трэба зазначыць, што перад тым, як беларускі фальклор пачаў быць выкарыстоўваны ў творчасці паэтаў, трэба было яго перадусім сабраць. I так напрыклад у 1817 годзе «Dziennik Wileński» выдрукаваў артыкул Марыі Чарноўскай пад назвай: «Zabytki mitologii słowiańskiej w zwyczajach wiejskiego ludu na Białej Rusi dochowane», у якім падае весткі аб абрадах і народных звычаях аднаго з паветаў Магілёўшчыны. Апісвае свята Купалы, свята дзядоў, званых «радаўніцай», свята русалак, якое адбываецца на другі дзень Зялёных Святкаў. Гэты артыкул меў вялікі ўплыў на далейшае развіццё зацікаўлення беларускім фальклорам. Пасля яго паяўляецца шмат іншых артыкулаў. З кожным годам расло зацікаўленне этнографаў, зварочваючых увагу на навуковае значэнне фальклору, які меў перадусім паглыбіць веды аб пачатках слаўянскіх падзеяў. Усе яны не гаварылі тады яшчэ аб выкарыстанні народнай творчасці ў літаратуры, аднак стварылі аснову для пазнейшага яе выкарыстання.

Першым паэтам, які шырока пачаў уводзіць да сваёй творчасці беларускі фальклор, быў Тамаш Зан. Як большасць філяматаў, таксама і Зан быў цесна звязан з беларускай зямлёй сваім паходжаннем. Свае дзіцячыя гады і маладосць правёў сярод беларусаў. Вучыўся ў Мінску і Маладзечне. Беларускую народную творчасць пазнаваў ужо ў бацькаўскай хаце, дзе бабка апавядала яму прыгожыя байкі, дзе шмат даведаўся ад яе аб народных беларускіх звычаях.

Традыцыя народных паняццяў вынесеная з хаты ў дзіцячыя гады, якая пазней абудзілася і ажыла ў студэнцкія гады ў Вільне, знайшла свае месца ў паэзіі.

Ужо да першых сваіх твораў уводзіць вобразы з жыцця беларускага народа. Так напрыклад у камедыі напісанай у 1817 годзе «Грычаныя піражкі», «Gryczane pierożki», у якой праўдзіва паказвае жыццё студэнтаў. Апрача таго, што ў мове студэнтаў, ці ў мове Цьвібака — дробнага мінскага прадаўшчыка, знаходзім шмат беларускіх выражэнняў, якія пераняли ад беларускага народа, бачым некалькі тыповых беларускіх паговорак і прыказак. Так напрыклад, калі пакрыўджаны студэнтамі Цьвібак хоча пайсці іх абвінаваціць, лёкай гаворыць яму: «gdy baba z kolasy, będzie iżej kolasie». Сярод беларускіх прыказак ёсць прыказка: «Баба з калёс, калёсам лягчэй».

Далей напрыклад, калі студэнты ўбіраюць лёкая за гувернёра, ён звяртаецца да іх: «Nie chcę... nie pop, w popowe ubierać się ryzy». Гэта таксама беларуская прыказка: «Калі не поп, не ўбірайце ў рызы».

У паэме «Табакера» («Tabakiera») каларытна і рэалістычна дае вобраз сялянскага вяселля. А вось фрагмент вясельных абрадаў перад выездам маладой да шлюбу:

**Tu, korowajne chcąc miesić dzieże,**
**Potrójne, żmiąc, czynią koła;**
**Włosy z młodej strzygą czoła,**
**Palcem się każdy do dzieży bierze;**
**Młoda trzy razy bije w kąt szczerze,**
**Trzy razy chodząc w krąg stoła.**

Мяшэнне караваю, стрыжэнне валос маладой, паклоны — гэта тыпова беларускія вясельныя абрады. Паглядзім як паэт прадстаўляе прадказанне пагоды селянінам:

**Z lotu jaskółki pogodę wróży,**
**Z wron kraku wie, kiedy słota;**
**Patrzy na kundla, na kota,**
**Gdy się na ziemi, lub piecu łoży,**
**I już się deszczem lub mrozem trwoży.**

У беларускім фальклоры знаходзім, што:

1. «Калі ластаўкі лятаюць высока, будзе добрая пагода, калі яны лятаюць над вадою ці над самаю зямлёю, то гэта на дождж.

2. Калі вароны лётаюць чарадою, ды громка каркаюць, то будзе непагадзь.

3. Калі кот ляжыць на халодным месцы падчас холаду, трэба спадзявацца цёплай пагоды, калі ляжыць на печцы, або звіваецца ў клубок — трэба спадзявацца марозу.

Далей паэт паказвае нам свята Купалы:

**Dziewki śpiewają, skaczą we wrzawie,**
**Młodzieńcy płomień przerżnąwszy żwawie,**
**Kochankom niosą zapały,**
**A z boku matule stare**
**Każdą wydziwiają parę.**

Шмат элементаў беларускага фальклору ўводзіць Зан да сваіх балад.

У баладзе «Świteź jezioro» паэт выкарыстаў вельмі папулярную на Беларусі легенду аб забойстве купца бедным хлопцам, які здабыўшы яго маёмасць, мае магчымасць ажаніцца з багатай паненкай. Бог за гэта ссылае кару на цэлы горад, заліваючы яго вадой.

Асновай балады «Цыганка», з'яўляецца беларуская народная песня, у якой гаворыцца аб тым, як жонка, сястра ці любімец дарма тужаць і чакаюць з вайны свайго дарагога. Нарэшце вяртаецца доўга чаканы, але, на жаль, не жывы. Цыганка паказвае дзяўчыне яе любімага, які варочаецца з вайны пры дапамозе чараў, знаных ў Новагрудчыне: «Цыганка налье поўную шклянку вады і ўкіне туды два яйкі і там ёй у вадзе пакажацца той, каго яна хоча бачыць».

Балада «Цыганка» з'яўляецца адным з лепшых твораў Зана ў галіне выкарыстання беларускіх народных элементаў. Побач з выкарыстоўваннем фальклорных матываў, паслугоўваецца вельмі часта выражэннямі, а нават цэлымі сказамі ўзятымі з беларускай мовы. Гэта ўсё сведчыць аб тым, што Т. Зан быў адным з першых паэтаў, які сваю паэзію цесна звязваў з беларускай вуснай народнай творчасцю.

---

Кулінарыя

## Беларускія стравы

### ГАЛКІ РЫБНЫЯ

200 грамаў ачышчанай ад касцей рыбы прапусціць праз мясарэзку разам з цыбуляй, дадаць чайную лыжку крухмалу, дробачку перцу, поўшклянкі малака або вады, пасаліць і перамяшаць. З атрыманай масы зрабіць клёцкі і зварыць іх у падсоленай вадзе. Падаць клёцкі на стол халодныя з хрэнам.

### КЛЕЦКІ, ФАРШЫРАВАНЫЯ МЯСАМ

Поўкілограма бульбы садраць на тарцы, адкінуць на сіта, даць сцячы. Калі сцёкшая вадкасць адстаіцца, крухмал, які сабраўся на дне, дадаць у надраную бульбу, усыпаць дзве лыжкі мукі, пасаліць і перамяшаць. З прыгатаванага цеста зрабіць круглыя клёцкі, начыніўшы іх фаршам з сырога мяса з цыбуляй і перцам. Клёцкі абсмажыць у масле на патэльні, затым скласці іх у каструлю, уліць чвэртку шклянкі смятаны і тушыць да згатаванасці.

---

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ (10)



Групы ў якія назначана двух немцаў - дэзерціраў і дзяўчыну, неадкладна адыйшлі ў напрамку вёскі Арэшкава. У нашым атрадзе, пры штабе застаўся Ліпчынскі.

Мінула некалькі дзён. Ліпчынскі пачаў нейк дзіўна сябе паводзіць. То чагосьці хацеў выйсці з лагера, цікаўна прыслухоўваўся розным размовам, моцна цікавіўся радыёстанцыямі і перадаванымі паведамленнямі.

Праз некалькі дзён знаходжання ў нашым атрадзе Ліпчынскага, пастанавілі мы перайсці ў іншае месца. Як звычай падчас чарговага паходу ёсць трохі мітусні, змяншаецца пільнасць, што пасля дорага абыходзіцца. Так здарылася і тады.

Невядома куды і як, знік Ліпчынскі. Высланыя патрулі вярнуліся з «пустымі рукамі». Справа ставалася небяспечнай. Мартынаў мяркуючы, што гэта мог быць нямецкі шпег, вырашыў перавесці атрад у іншае месца. Пярэчыў гэтаму камісар брыгады, Васіль Пятровіч, заяўляючы, што гэта цалкам неабгрунтаванае меркаванне, што якогасьці там хлопчыка няма патрэбы баяцца, падзараваць, што трэба толькі больш асцярожна дзейнічаць.

Далёка ў пушчу пайшлі патрулі, ад Гайнаўкі ўзмоцнена дазоры, падрыхтаваліся на ўсякую нечаканасць. Уначы патрулі паведамілі, што ў кірунку на Нараўку ехала многа нямецкіх машын, апроч гэтага, усё ціха і спакойна.

Стала гэта так няспадзявана, што нават дазоры не паспелі нічога паведаміць, як на наш лагер рынула хваля агню і фашыстаў.

Гэтым разам фашысты атакавалі нас не ад Гайнаўкі, адкуль мы заўсёды чакалі атакі, а ад усходу, адкуль найменш чакалі фашыстаў. Швабаў на наш лагер вёў Юры Ліпчынскі, было іх хіба з трыста, а нас усяго 50-х.

Вырваны са сну наш лагер не мог належна бараніцца. Кожны хапаў у руку, што меў і бег у лес. Фашысцкія серыі прыціскалі іх да зямлі. Савецкія радысты прабавалі ратаваць радыёстанцыі. Варожыя кулі паклалі іх на месцы. Ратуючы радыёстанцыі загінулі парашутысты Ваня і Алёша.

Бязладна адступаючы, гнаныя варожымі кулямі неслі мы параненых таварышаў. У рукі немцаў з жывых ніхто не трапіў. Засталіся толькі радыёстанцыі, засталося шмат зброі, дакументаў і іншае партызанскае абсталяванне. Цэльным быў удар фашыстоўскага шпіка.

Пасля разгрому зыйшліся ў раней вядомым нам месцы. Мартынаў неадкладна выслаў патрулі ў тыя партызанскія групы, з якімі пайшлі немцы і дзяўчына.

На допыце немцы і дзяўчына прызналіся, што яны разам з Ліпчынскім адбылі адпаведную падрыхтоўку ў гестапа і паслана іх у наш атрад. Заданай іх з'яўлялася дапамагчы зліквідаваць хоць наш атрад. Прысуд быў кароткі — іншы не мог быць.

Вярнуліся мы на месца нядаўнага бою. Было ціха і спакойна. Ляжалі целы забітых таварышаў, знішчана і раскілана партызанская маёмасць.

У напружанай цішы ўзялі целы пабітых, каб на маленькай палянцы ўшанаваць іх памяць партызанскім пахаваннем.

Быў дзень 7-га мая. Пасярэдзіне палянкі жаўціліся пяском свежа выкапаныя магілы. На імху, прыкрытыя чырвоным сцягам, ляжалі целы партызанаў.

Малады лейтэнант Коля, парашутыст - радыст, прыбыў у Белавежскую пушчу аж з далёкай Масквы. Пакінуў там маладую жонку, матку, Радзіму. Побач яго ляжалі парашутысты Саша, Ваня і Алёша.

Часта вечарамі расказвалі аб далёкай Маскве, аб сваіх сем'ях. Марылі аб мірным, творчым жыцці, аб перамозе над знявідным ворагам. Спявалі песні.

Вакол палянкі, накшталт поўколля ўставіліся партызаны. У руках — шапкі, на тварах застыў боль, нянавісць.

Падыходзілі да выкапанай магілы, кідалі жменьку зямлі, развітваліся на заўсёды са сваімі таварышамі барацьбы, прысягалі змагацца аж да перамогі. Зямля засыпала іх целы.

Міналі партызанскія дні поўчыя небяспекі. На ўсходзе адбывалася гіганцкае наступленне.

У чэрвені 1944 года я і яшчэ шэсць партызанаў мелі высадзіць транспарт на лініі Гайнаўка — Бельск каля чыгуначнага раз'езда Леўкі. Выйшлі вечарам. Імжэў дожджык. Таму, што заданне мелі выканаць на світанні, зашлі ў вёску Пуціска, да знаёмага селяніна адпачыць. Пасля нейкага часу 5 маіх таварышаў вышла на панадворак, а я застаўся яшчэ развітвацца з гаспадаром. Сказаў астатняе развітальнае слова і выскачыў на ганак. У той час хтось злапаў мяне за рукі, хтось прылажыў дула да грудзей, хтось сціснуў мяне за горла. Аб абароне не магло быць і мовы. Вельмі хутка мяне звязалі.

Думка працавала як маланка. Адкуль немцы? Хто здрадзіў? Дзе таварышы? Фашысты нічога не пытаючы пагналі мяне на паліцэйскі пост у Новым Беразове.

Працяг будзе.







ЯНКА КУПАЛА

## Селянін і конь

Пад гарою ў селяніна
Конь прыстаў дарэшты:
Белны, змучыўся ні з месца,
Хоць яго зарэж ты!

Селянін ужо і ласкай:
«Но! Цягні, вашэця!
Бо інакш, напішуць брыдка
Аб табе ў газеце...»

А яму конь: «Няхай пішуць,
Раз такой натуры,
Адно ты пакінь пісаці
На маёй-жа скуры!»

## Нашыя пацехі

— Мамачка, а хто мяне стварыў? — пытае маленькая Маня.

— Пан Бог, дзетачка — адказвае маці.

За пару дзён пры гасцях Маня папісваецца.

— А я ўжо ведаю хто мяне стварыў.

— Ну скажы хто? — пытаюць разбаўленыя госці.

— Адзін пан, мамачка мне гаварыла, якога толькі я прозвішча не памятаю.

### На лузе

· Антон, колькі лет мае гэтая карова?

— Два.

— А па чым ты пазнаеш?

— Па рагах.

— Ах праўда, я зусім забыўся, што яна сапраўды мае толькі два рогі.

### Жаніцца ці не...

Як ведама — грэчаскі філасоф Сакрат меў вельмі дрэнную жонку Ксантыпу. Аднойчы яго сябры хацелі зажартаваць і тады запыталі: Як ты нам раіш, жаніцца ці не?

Сакрат адказаў: — якбы вы не зрабілі, усёроўна будзеце калісьці шкадаваць.

### Пачаткова смяяўся

— Пеценька — чаго ты так плачаш?

— А бо папачка як вярнуўся сёння з ярмарку і ўвахолзіў у хату то ўдэрыўся ілбом у вушак...

— То ці-ж дзеля гэтага будзеш усё плакаць?

— Вось я пачаткова і рагатаў з гэтага, але пстым тата як зрэзаў дзягай...

### Сваю палавіну калышы

Дзіцё было якоесьці вельмі крыклівае. Маці некалькі разоў уставала ноччу. У канцы не вытрымала і давай будзіць мужа.

— Мог-бы хаця ты раз устаць і пакалыхаць малога. Яно-ж такое самае дзіцё тваё, як і маё.

— То ты, мілая мая, сваю палавіну закалышы а мая хай сабе крычыць...

### На палаванні

— Гэй, дзядзька, ці вы не бачылі тут майго сабакі?

— О, паночку, бачыў я яго бачыў, як ён уцякаў, бо заяц ганіў яго.

## Прыказкі

Есць за вала — робіць за камара.

* * *

Пасьпех, людзям на смех.

* * *

У няўмекі — рукі калекі.

* * *

Пакуль не ў руках, не кажы што твае.

* * *

У чужое проса не сунь носа.

* * *

Людзей шукай — а свой розум май.

* * *

У страха вочы па яблыку.

* * *

Мілей свая хата — як чужая вёска.

* * *

Колас, што зярнят не мае, дагары лоб задзірае.

* * *

У восень і верабей багаты.

* * *

Лета збірае, а зіма прадае.

* * *

Якім зярном сееш — такім і вееш.

* * *

З мядзведзям дружы — а за стрэльбу дзяржы.

* * *

Дзе коратка — там і рвецца.

* * *

Што кажух, то не вата, што капуста, то не гарбата.

Пачынальніца.
О-ю-ля-лю! Дайце-ж мне раду,
Пад маю ўладу. О-ю-ля-лю!

Хор
О-ю-ля-лю! Хто-ж табе рада?
Млады Ігналька? О-ю-ля-лю!

Пачынальніца адказывае:
О-ю-ля-лю! Што мне па гэтым,
Па доўганосым? О-ю-ля-лю!

Пачынальніца так як спачатку:
О-ю-ля-лю! Дайце-ж мне раду,
Пад маю ўладу! О-ю-ля-лю!

Хор успамінаючы другога дзяцюка:
О-ю-ля-лю! Хто-ж табе рада?
Малады Мацейка? О-ю-ля-лю!

Пачынальніца адказывае з новай прыганай:
О-ю-ля-лю! Што-ж мне па гэтым,
Ды па цыбатым? О-ю-ля-лю!

Хор успамінае што раз новае імя, а пачынальніца дае прыганы, то рабаліцы, то крываногі і г. д., аж пакуль хор на ўспомніць хлапца, які ёй падабаецца; тады песня канчаецца так:

О-ю-ля-лю! Яго люблю я,
За яго пайду. О-ю-ля-лю!

## АДГАДАНКА



Каб развязаць гэтую лікавую адгаданку, трэба ў вышэй змешчаныя клеткі ўпісаць наступныя лікі: 0, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8.

Сума 3 лікаў, як па гарызанталі, так і па вертыкалі складвае лік 12.

Сярод чытачоў, якія да 1.II 1957 года прышлюць правільныя развязкі, будзе разыграна 10 кніжных узнагарод.

## Бабусіныя казкі

Я заўсёды вельмі ласкава ўспамінаю прошлы час, калі яшчэ быў маленькі. У доўгія зімовыя вечары пад акампанемент выцця ветра ў коміне, бабуся расказвала мне чароўныя казкі. Праўда, калі я вырас, то я нідзе не найшоў царэўны, ні зачараванага скарбу, але Ваньку — дурачка спатыкаў часта і то ў розным выглядзе.

Заходжу я адзін раз да старшыні Грамадскай рады ў Снежках і пытаю: — Чаму ў вас камісія культуры не працуе. Старшыня рассеўся ў крэслі і адказаў: — Бабусіныя казкі апавядаеце. Ва ўсіх грамадскіх радах гэтакія камісіі не працуюць.

У той самы дзень паехаў я аўтабусам у Бельск. У аўтабусе пытаю кантралёра: — А чаму ПКС на аўтабусавых прыпынках не паставіць будак? Людзі чакаючы на аўтабус мокнуць, мерзнуць, іншым разам хворых вязуць, а схавацца няма дзе.

— Бабусіныя казкі! Каму трэба ехаць і так даедзе — прамармытаў кантралёр.

У Бельску зайшоў я ў краму ПСС, а там прадавец дастае рукамі селядцоў, зважыў, даў селяніну, а другой жанчыне хлеб падае. Гавару да прадаўца: — Для селядцоў трэба мець відэльца, а не ўсім прыемна есць хлеб, які селядцамі пахне, гандлюеце не культурна.

— Мусіць, бабусіныя казкі збіраецеся расказваць. Я за свае грошы відэльцаў купляць не буду. Квашаную капусту, агуркі і іншыя вось таксама прадаем. Ва ўсіх крамах так прадаюць, а каму не падабаецца, то няхай не купляе — адказаў прадавец і адвярнуўся.

Што-ж, напісаў я аб гэтым і прынёс ў рэдакцыю, а мне гавораць: — Вы-бы дзядзька напісалі што-небудзь новае, а то... бабусіныя казкі...

Добрыя грамадзяне! Падумайце самі, ці гэта мая віна, што многа яшчэ ў нас не зроблена для людзей Ці ўсё гэта за нас зробяць казачныя карлікі, так, як у бабусіных казках?

Дзядзька Ляваль

## АГАФОН АБРОТКА РАДЗІЦЬ



*Слізка, ўсюды галалёд,*
*Слізгаецца ўсёй народ.*
*Агафон на каньках мчыцца,*
*Галалёду не баіцца.*

*Глядзіць. Стась ідзе з вёдрамі.*
*Раптам — гоп! і гару нагамі*
*Крычыць: — Ой, баліць лапатка!*
*З хаты выбегла Агатка.*

*Дападае да дарогі.*
*Гоп! і... выцягнула ногі*
*Агафон сюды спяшае,*
*Устаць Агаце памагае.*

*І прыгаворвае Абротка:*
*— Памятайце — дзядзьку, цётка,*
*Аб свае здароўе дбайце,*
*Лёд пясочкам пасыпайце!*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Адрас рэдакцыі гор. Беласток вул. Маніфесту Ліпцовага 25, тэл. ...-89. Умовы падпіскі на 1 месяц 2 зл. 40 гр., 3 месяцы — 7 зл. 80 гр., 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на год — 31 зл. 20 гр. Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-13